# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 15 (267) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 9 КРАСАВІКА 1961 ГОДА | ЦАНА 65 ГР.


## ВЫБАРЧЫЯ СПАТКАННІ

### Яўгенія КРАСОЎСКАЯ



Труднае і сумнае мела дзяцінства. Каб вучыцца у гімназіі, ужо ў 14-тым годзе жыцця вымушана была зарабляць карэпетыцыямі на утрыманне і аплату коштаў навукі. Пасля заканчэння гімназіі ў не менш цяжкіх матэрыяльных умовах вучыцца ў аддзяленні паланістыкі Віленскага ўніверсітэта. У часе ўніверсітэцкіх год супрацоўнічае з левымі групамі студэнцкай моладзі і прымае дзейсны ўдзел у арганізаванні матэрыяльнай дапамогі палітычным зняволеным.

Пасля заканчэння ўніверсітэта, у часе савецкай улады, працуе выкладчыцай польскай мовы ў сярэдняй школе ў Вільні. Нападзенне нямецкіх фашыстаў на СССР не перарывае педагагічнай працы Яўгеніі Красоўскай. Яна прыязджае ў Беласток і тут ва ўмовах гітлераўскага тэрору вядзе канспірацыйнае навучанне.

(Працяг на стар. 2)

### Максім РУДЧЫК



Максім Рудчык — чалавек, які без рэшты аддае свой час грамадскім справам. З'яўляецца ён членам Ваяводскага і Павятовага камітэтаў ПАРП, членам Дзяржаўнай рады спулдзельчасці прадукцыйнай, старшынёю Ваяводскага саюза сялянскіх спулдзельняў прадукцыйных і працуе ў праўленнях шэрагу іншых дзяржаўных, прафсаюзных і грамадскіх устаноў.

Дзяржава высока ацаніла яго працу. Узнагароджаны ён «Медалем 10-годдзя» і «Залатым крыжам заслугі».

Ваяводскі Камітэт адзінства народа высунуў Максіма Руд-

(Працяг на стар. 2).




## БЕЛАВЕЖСКІЯ КРАЯВІДЫ



фота М. Тарасевіч

А ЛАСІ ЎСКІДАЮЦЬ НАД КУСТАМІ РОГІ.
Ў КОЖНАЙ ІХНЯЙ ЖЫЛЦЫ КОЛЬКІ АСЦЯРОГІ.
(З верша «Белавежа» Язэпа Пушчы)

## БЕЛАРУСКАЕ ЧЫТАЛЬНІЦТВА

# КРОК ЗА КРОКАМ

С. ЯНОВІЧ

Аб'яўлены ад 1 снежня мінулага года гадавы конкурс для бібліятэк — «Кніжка на роднай мове ў руках кожнага беларуса» — адыгрывае значнальную ролю ў развіцці беларускага чытальніцтва на Беласточчыне. З'явіўся ён штуршком, які ўвёў беларускую кніжку на варштат штодзённай працы нашага вясковага бібліятэкара.

У конкурсе прымаюць удзел 42 вясковыя бібліятэкі і каля 140 бібліятэчных пунктаў. Здабыў ён асаблівую папулярнасць на тэрыторыі Бельскага, Гайнаўскага і Беластоцкага паветаў.

У сваіх конкурсных абавязацельствах бібліятэкары перш за ўсё арганізуюць літаратурныя вечарыны і дыскусіі над творчасцю такіх беларускіх пісьменнікаў, як Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Міхась Лынькоў, Якуб Колас і інш. Такая форма прапагандавання роднай літаратуры сталася агульна практыкаванай. Асабліва каштоўныя дыскусіі над паасобнымі творамі — аповесцямі, апавяданнямі, вершамі і г. д.

У вясковай бібліятэцы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі пав.) адбыўся, напрыклад, цыкл дыскусій над такімі творамі Кузьмы Чорнага, як «Трэцяе пакаленне», «Насцечка», «Вялікае сэрца». У Нараўскай бібліятэцы дыскутаваліся «Векапомныя дні» М. Лынькова, а ў Палічнай — п'еса «Дзесяць гектараў» нашых пачынаючых драматургаў Яўгена Блізнюка і Уладзіміра Цілюлькі.

Шмат праяўляюць тут ініцыятывы бібліятэчныя пункты. Бібліятэчны пункт у Кнарыдах (Бельскі павет) практыкуе правесці калектыўнае чытанне і дыскусію над аповесцю Змітрука Бядулі «Салавей», а ў Дыдулях праектуецца вечар беларускіх казак і баек.

Надзвычай карыснае з прапаганднага боку тое, што ўсе бібліятэкі апрача шматлікіх літаратурных вечарын наладжваюць таксама выстаўкі беларускай літаратуры і па мастацку афармленыя спісы — вывескі выдавецкіх навінак. Гэта дае яшчэ адну магчымасць дасканаліць густ чытача, аблягчаць яму выбар адпаведнай кніжкі. Некаторыя бібліятэкі афармляюць нават спецыяльныя насценгазеты, напрыклад у Кленіках, Белавежы (Гайнаўскі павет), Залуках

(Працяг на стар. 5)



«Людзі, чыны, дарогі» — чытай на стар 4.

# МЁД — ЛЯКАРСТВА

Філосаф старажытнай Грэцыі Піфагор, калі меў 90 год, упэўніваў, што крыніцай яго здароўя і сілы з'яўляецца мёд.

Гіпакрат прапанаваў мёд усім сваім пацыентам. Дэмакрыт, калі меў больш 100 год, гаварыў, што каб дажыць да яго гадоў, трэба мёдам шмараваць вантробу, а алеем шкуру.

Слаўны таджыцкі вучоны, лекар Авіцэнна, прапанаваў: «Калі хочаш быць здаровым, дык спажывай мёд».

У мёдзе шмат ёсць дэкстрозы (глюкозы) і лявулёзы. Мёд на працягу вякоў лічыўся як сродак супраць усіх хвароб. Мёд з'яўляецца амаль што адзіным аджыўчым сродкам, якога каштоўнасць пацвярджае сучасная медыцына.

Мёд складаецца з мяшанкі дэкстрозы (глюкозы) і левулёзы, альбо фруктозы. У мёдзе ёсць таксама бялка — 0,3 — 2,5 працэнтаў. Знаходзяцца ў ім таксама арганічныя квасы - энзымы, напрыклад, діастаза, каталяза і г.д., вітаміны з групы В, а таксама вітаміны А і С, хаця ў мінімальных колькасцях. Каштоўнасць лячэння мёдам пры недамаганнях сэрца і крывяносных сасудаў ёсць звязана з дзейнасцю глюкозы, фруктозы, вітамінаў, а таксама цел з гарманальнымі ўласцівасцямі. Спосаб лячэння мёдам павінен быць падсказаны лекарам. Неабходна заўважыць, што прапанаваная аднаразовая даўка мёду праз швейцарскіх лекараў не перакрачае 80 грам. Найлепш спажываць мёд нашча і вечарам перад сном, значыць 2 разы ў дзень па 1—2 ложачкі мёду, распушчанага ў паўшклянцы цёплай вады, альбо гарбаты з лімонам (вітамін С). Большыя даўкі шкодныя і могуць выклікаць у арганізме харчавы цукрамоч.

## Гідрастат — разведчык глыбіні



Гідраакустычнымі прыладамі карыстаюцца на рыбалавецкіх суднах. Рабочая глыбіня апушчэння гэтага гідрастата 600 метраў. У стальным цыліндровай формы сасудзе памяшчаецца чалавек, які наглядае за падводным мірам праз адзін з пяці ілюмінатараў. У апараце ўмацаваны пражэктар і лямпа - ўспышка для фатаграфавання. Выпрацукаваны ён у 1960 г. у Ленінградзе.

## Гісторыя кола

Кола (звычайнае, як у возе) вынайдзена 4—5 тысяч год таму назад. Калі параўнаць гэта з існаваннем чалавецтва на зямным шары (найменш 600 тысяч год) дык бачым, што не так ужо і даўно вынайдзена кола. Некалькі тысяч год таму назад у старажытнай Індыі і Кітаі ўсялякія цяжары транспартавана на пласкадонных вазах, замацаваных на санях. У Індыі такія сані цягнуў слон, а ў Кітаі — быкі. На перадку такога воза побач з фурманам стаяў другі чалавек і ўвесь час паліваў дарогу вадой, каб зменшыць трэнне палазоў аб зямлю. З часам пад палазы пачалі падкладаць круглыя клёцы. Далейшым паляпшэннем такога транспарту былі паўкруглыя выямкі ў палазах, да якіх укладвана валкі. Менавіта гэтыя валкі былі прататыпамі цяперашніх колаў. З часам сярэдзіну гэтых валкаў спецыяльна патоншвалася, з чаго ўтвараліся два колы на супольнай восі. Пасля суцэльныя колы накладана на вось, прымацаваную да воза. А ў канцы суцэльныя цяжкія колы заменена коламі са шпіцамі. І так ад колішніх палазоў і клёцаў дойдзена да сучасных агумованых кол на шарыках.



## І на гэтым ездзяць

У ЗША (у Арызоне) можна ўбачыць асвоеную і асядланую зебру, якая, як вядома, вельмі палахлівая жывёліна. Яна пад сядлом адзначаецца нястомнай хуткасцю.

## Універсальны агрэгат „КБК—3"

Агрэгат «КБК-3» — гэта камплекс навесных прыладаў, змантаваных на трактары. Найбольш важная з іх — карчавальная рама, у якой замацавана дзевяць металічных зубоў. Пры дапамозе карчавальнай рамы за восем гадзін можна выкарчаваць ад 200 да 1200 пнёў, тры гектары кустарніка альбо дробнага лесу, выцягнуць і адцягнуць у бок ад 100 да 400 вялікіх каменняў, узрыхліць і прачасаць да 4 гектараў зямлі і зараць яе.



# СТАРАДАЎНІЯ ЮР'ЕЎСКІЯ ЗВЫЧАІ Ў БЕЛАРУСАЎ

(Працяг са стар. 3)

«Калі выйдзе на юраву расу, то ачуняецца»; «Калі да Юр'я дацягне, то ўсё будзе добра».

Вось некаторыя практыкі, забяспечваючыя жывёлу ад хвароб, ведзьмаў, «благога вока» і г. д.

Найбольш распаўсюджаным не толькі ў славян, але і ў іншых народаў быў звычай пры выгане першы раз у поле жывёлы — сцябанне яе галінкаю вярбы, пасвячонай на Вербніцу. Магічная дзейнасць вярбы мела забяспечыць жывёлу ад усялякага няшчасця на ўвесь год.

Існаваў і такі звычай у нашых бацькоў і дзядоў дзеля забеспячэння жывёлы ад няшчасця, а іменна: выганяючы першы дзень жывёлу ў поле, пераганялі яе праз кажух, разасланы перад парогам хлява шэрсцю ўверх. Гэтая практыка перш за ўсё гарантавала будучую плоднасць жывёлы.

Гаспадыня, далучаючы сваю жывёлу да агульнага статка, на чале якога стаяў старэйшы пастух, т. зв. пастыр, давала яму пару яек, хлеба з сырам і адначасова ўручала галінку вярбы, якой пастыр мусіў тройчы сцебануць далучаную жывёлу. Вечарам, прыгнаўшы статак з поля, пастыр аддаваў вярбу гаспадыням, або затыкаў над варотамі хлява. Рабілася гэта дзеля таго, каб: 1) зберагчы жывёлу ад ведзьмаў, якія ў Купальскую ноч стараюцца пранікнуць у хлявы і шкодзіць кароўкам, 2) жывёла, вяртаючыся з пашы, не блудзіла па чужых панадворках, а непасрэдна ішла ў свой хлеў і 3) забяспечыць жывёлу ад усялякіх хвароб і ад дзікага звера.

На Навагрудчыне і Случчыне быў звычай выганяць да ўсходу сонца жывёлу на рунь — «на Юр'еву расу». На Пружаншчыне пры першым выгане жывёлы ў поле клалі пад парог хлява круглае палена, яйка і палку, якой пастух тройчы злёгку біў жывёлу. Вечарам пастух ламаў гэту палку на столькі кавалкаў, колькі ў хляве было загарадак і ў кожную ўтыкаў кавалак палкі.

Юры не толькі фармальны апякун жывёлы. Ён часта з'яўляецца проста пастухом. Аб гэтым кажуць нам юр'еўскія народныя песні.

**«Святы Юры па лугу ходзіць,**
**Па лугу ходзіць, коні пасець,**
**Каб былі добры ды пабрыківалі...»**
Або пытанне:
**«Дзе Юр'я прабывае?**
**Пасе кароў у чыстым полі».**

Юры сцеражэ жывёлу ад драпежных звяроў, канкрэтна ад ваўкоў. Ёсць такое павер'е, што воўк хапае, або нападае на тую жывёлу, на якую атрымаў дазвол ад Юр'я. Юры загадвае ваўкамі, яны яго слухаюцца і баяцца. Юры не толькі на кані ездзіць. «Як яму часамі зажадаецца, то і на ваўках праедзецца», — кажа традыцыя. Значыцца, згодна з народным павер'ем, воўк без дазволу Юр'я не парушыць жывёлы. А каб ваўкі не падохлі, то Юры дазваляе ім хапаць жывёлы столькі, колькі патрэба, каб пражыць. У некаторых аколіцах Беларусі на Юр'я яшчэ да ўсходу сонца вілі повад (вяроўку) з канаплянага валакна, даўжынёй у шырыню варот. Над гэтым повадам знахар (шаптун - чарадзей) шаптаў і выконваў свае чары. Пасля гэтага вяроўка (повад) набывала сілу, ахоўваючую жывёлу ад ваўкоў на працягу ўсяго пасбішчнага сезона. Але жывёла пры першым выгане ў поле павінна перайсці праз зачараваную вяроўку.

Паводле народнага павер'я конь мае ў асноўным двух ворагаў: д'ябла (хлеўніка) і ваўка. Ад першага можна вызваліцца пры дапамозе чараў, а ад другога часам нельга выкруціцца. Барацьба з другім бывае безрэзультатнай у трох выпадках, калі, напрыклад, жарабя радзілася на Юр'я ды яшчэ мае чорнае паднябенне. Міма ўсялякіх асцярожнасцяў і забегаў пазней, ці раней, а воўк яго з'есць, або так пакалечыць, што не вылечыш.

Аб тым, што Юр'еўскі дзень з'яўляецца вялікім святам пастухоў, а сам Юры іхні апякун і блізкі супрацоўнік у справе жывёлагадоўлі, не прыходзіцца многа даказваць. Кароценька прыгадаем пастушыны абрад на Юр'я, запісаны на Магілёўшчыне.

На Юр'я пастухі хадзілі па сяле і збіралі ад гаспадынь хлеб, яйкі, сала, малако. З сабранымі прадуктамі ішлі ў поле да жывёлы і там распальвалі вогнішча і смажылі яешню. Пасля гэтага збіралі жывёлу ў грамаду і ўсе пастухі, цэлай працэсіяй, абходзілі з яешняй сабраную ў адным месцы жывёлу. Некаторым пастухам былі раздзелены ролі: зязюлі, зайчыка, кульгавага, сляпога. Старэйшы пастух (пастыр), які нёс яешню, абходзячы жывёлу, задаваў пытанні:

— Зайчыку, зайчыку, ці горкая асіна?

Зайчык адказваў: — Горкая.

Пастыр: — Хай жа і нашая жывёла будзе горкая ваўку.

— Сляпы, сляпы, ці відзіш?

— Не віджу.

— Хай жа і воўк не відзіць нашай жывёлы.

— Кульгавы, кульгавы, ці дойдзеш?

— Не дайду.

— Хай жа і воўк не дойдзе да нашай жывёлы і г.д.

На заканчэнне абходу пастыр заклікаў:

«Зязюлька, зязюлька, прыкукуй нашу скацінку, каб не разбеглася.

Урэшце, вярнуўшыся з яешняю да вогнішча, усе пастухі частуюцца і час ад часу падкідваюць яду з лыжкай уверх, прыгаварваючы: «Каб так наша жывёла падскаквала».

Роля, як бачым, Юр'я настолькі вялікая ў сельскагаспадарчых справах, што культ св. Юр'я ў хрысціянскім свеце проста не даецца параўнаць з культам любога са святых. Юр'еўскія народныя звычаі і павер'і багатыя і цікавыя. Яны чакаюць яшчэ на спецыяльную навуковую апрацоўку этнографамі.

М. Ц.

# НАСТУПЛЕННЕ НА ПУСТЫНІ

Пустыні і паўпустыні ў СССР займаюць прыкладна шостую частку тэрыторыі. Нетры іх захоўваюць невычэрпныя запасы солі, фасфарытаў, тут здабываюць нафту, серу, медзь, марганец, волава, вальфрам, індый і іншыя металы. Запасы газу толькі ў Каракумах вылічваюцца трыльёнамі кубаметраў. З Кізыл-Кумаў пацягнуліся ўжо ніткі газаправодаў.

Жывёлаводы пустынь і паўпустынь — асноўныя пастаўшчыкі лепшага ў свеце савецкага каракулю, а таксама сыравіны для суконных, шарсцяных і абутковых фабрык. На пашы пасвяцца мільёны авечак.

Савецкія людзі паставілі ўжо на службу народу скарбы «скупых» зямель і працягваюць пераўтвараць бязводны край. З кожным годам граніцы пустынь скарачаюцца.

Нядаўна праз пяскі і барханы гідрабудаўнікі Туркменіі праклалі новую трасу аму-дар'інскай вадзе. Па Каракумскім канале яна прыйшла ў Мургабскі і Тэджэнскі аазісы. У зоне канала калгасы і саўгасы асвоілі больш чым 70 тысяч гектараў цаліны і аблогаў. Каля 30 тысяч гектараў зямель працаўнікі рэспублікі ўзорваюць у гэтым годзе. Яшчэ больш прывабныя перспектывы адкрываюцца ў недалёкім будучым. Пераможцы лясоў рыхтуюцца да новага наступлення — будаўніцтва трэцяй чаргі Каракумскага канала. Ад ракі Тэджэн аму-дар'інская вада прадоўжыць свой шлях да Ашхабада, арасіць Прыкапетдагскую нізіну. Гэта дасць магчымасць асвоіць яшчэ 400 тысяч гектараў урадлівай цаліны. І тут зашумяць сады, узнімуцца рослівыя кусты бавоўніку, да вадапояў пацягнуцца сытыя атары авечак. Яшчэ багацейшым стане гэты край.

У СССР пачынаецца шырокае наступленне на бязводдзе. Падлічана, што ў абвадненні маюць патрэбу 300 мільёнаў гектараў пашы. К канцу сямігодкі 83 мільёны з іх атрымаюць жыватворную вільгаць. Напомнім, што за ўсе гады Савецкай улады было абводнена 150 мільёнаў гектараў.

К 1965 году будзе пабудавана 8.500 буравых шчылін, 28 тысяч шахтных калодзежаў, 8 тысяч кіламетраў вадаправодаў, 4 тысячы сажалак і вадаёмаў. Вялікія лічбы. А за імі скрываюцца пераўтвораныя пустыні і паўпустыні. 40 мільёнаў гектараў пашы атрымаюць ваду ў Казахстане, 7 мільёнаў гектараў — ва Узбекістане, 10 мільёнаў гектараў — у Туркменіі. Ваду дадуць буйныя абвадняльныя збудаванні - каналы, у іншых месцах яе падымуць з калодзежаў помпамі.



На здымку:

Праект моста на Аму-дар'і, будова якога ўжо распачата. Будзе гэта ажурны вісячы мост, адна з важнейшых інвестыцый у СССР.

